PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 22 (1829) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 2 ЧЭРВЕНЯ 1991 г. ЦАНА 800 зл.



*Мітынг на Электратэхнічным заводзе імя Казлова.* *Фота Кастуся Войткі.*

# Нараджаецца БЕЛАРУСКІ РАБОЧЫ РУХ

3 красавіка ў Мінску спынілі працу электратэхнічны завод, завод шасцярон, завод аўтаматычных ліній і некалькі цэхаў трактарнага завода. Стыхійны пратэст рабочых выкліканы быў уведзеным напярэдадні павышэннем цэн. Аб павышэнні цэн было вядома намнога раней, але тое, што людзі ўбачылі ў крамах 2 красавіка, паставіла іх у стан шоку. Прадукты харчавання каштавалі ў два-тры разы болей, павышэнне цэн на прамысловыя прадукты было яшчэ больш рэзкае. Цэны на гарэлку, дарэчы, засталіся па-старому. Павышэнне цэн, хутчэй за ўсё, было шокам і для беларускага ўрада, які, будучы адно правінцыйным філіялам маскоўскага цэнтра, наўрад ці спадзяваўся такога выпрабавання на „саюзную вернасць". Але, як казалі, у Мінску абураліся і плакалі, ды ўсё-такі зрабілі так, як загадала Масква. А Масква „слезам не верила", а верыла вынікам гарбачоўскага рэферэндума — звыш 80% беларусаў за Саюз, значыць, тут аніякіх ускладненняў не прадбачваецца.

Пратэст рабочых хутка набываў арганізаваныя формы. На той момант, калі да рабочых даехалі перапалоханыя прадстаўнікі ўрада, ужо існаваў страйкавы камітэт, які разам з экзамінічнымі патрабаваннямі выставіў урадпікам і палітычныя: адстаўка прэзідэнта СССР з кабінетам міністраў, роспуск Вярхоўнага Савета БССР. Гэта быў наступны шок.

4 красавіка застрайкавалі мінскія „гіганты" — МАЗ, МТЗ, матавелазавод, шмат іншых заводаў. Скранулася і „правінцыя" — сталі БелАЗ у Жодзіна, філіял МАЗа ў Бабруйску, калійныя руднікі ў Салігорску.

Шматтысячныя калоны рабочых з усіх бакоў пачалі сцякацца на плошчу Леніна да Дома ўрада. Пачаўся мітынг.

3—5 красавіка на заводах і прадпрыемствах Мінска праходзілі агульныя сходы па стварэнні страйкавых камітэтаў. 5 красавіка на агульным сходзе прадстаўнікоў мінскіх страйкавых камітэтаў былі выбраны лідэры рабочага пратэсту:

**Сяргей Антончык** (нар. 1956) — рабочы завода імя Леніна, апаратчык хімводаачысткі. Дэпутат Вярхоўнага Савета. Сябра Сойма БНФ.

**Генадзь Быкаў** (нар. 1957) — шліфоўшчык на заводзе аўтаматычных ліній. Сябра БНФ.

**Георгій Мухін** (нар. 1949) — накладчык станкоў на заводзе „Электронмаш". Сябра Управы БНФ.

На гэты дзень у Мінску былі створаны страйкавыя камітэты на 42-х прадпрыемствах. Для адказу на свае патрабаванні рабочыя далі ўраду тыдзень часу.

9 красавіка на 17 прадпрыемствах быў праведзены папераджальны „тэлевізійны страйк" — рабочыя дамагаліся прамога эфіру на Беларускім тэлебачанні, згодна з пагадненнем, дасягнутым на перамовах 5 красавіка. Гэтай магчымасці страйкуючыя не атрымалі. Вечаровае пасяджэнне гарадскога страйкавага камітэта рэкамендавала заводскім страйкамам з 10 красавіка распачаць гарадскі страйк.

10 красавіка на плошчу Леніна зноў выйшлі рабочыя. На

(Працяг на стар. 6)

## Пленум у Гайнаўцы

7 мая г.г. у будынку Музея ў Гайнаўцы адбылося пленарнае пасяджэнне Праўлення аддзела БГКТ. Першай тэмай у павестцы дня была справаздача аб дзейнасці Гайнаўскага аддзела Таварыства. Старшыня аддзела Янка Якімюк паінфармаваў, што іх аддзел налічвае 8 гурткоў і 615 членаў. Дзейнасць БГКТ у Гайнаўцы мела перш за ўсё культурна-асветны характар. Да найважнейшых беларускіх мерапрыемстваў, арганізаваных у Гайнаўцы, залічыць трэба навагодпія балі (было іх тры ў Гайнаўскім доме культуры), Купальскую ноч у Белавежы і фэстын у гарадскім парку. Гайнаўскі актыў дапамагаў арганізаваць раённыя агляды конкурсу „Беларуская песня". Аддзелам былі наладжаны чатыры экскурсіі ў Савецкі Саюз. Члены Таварыства і вучні беларускага ліцэя вельмі ангажаваліся ў падрыхтоўку да адкрыцця Музея — наводзілі парадкі ў будынку „А" і вакол яго. Актывісты аддзела арганізавалі ў навакольных вёсках танцавальныя вечарыны, а даход з іх пералічвалі на рахунак Музея. Такім чынам музейны фонд папаўняўся на 1 мільён злотых. Старшыня аддзела падзякаваў за супрацоўніцтва шматгадоваму дырэктару Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы Аляксандру Іванюку, які нядаўна адыйшоў на пенсію, і павіншаваў Васіля Дамброўскага з назначэннем яго на гэтую пасаду.

Пасля справаздачы прысутныя заслухалі інфармацыю аб ходзе пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і падрыхтоўцы да пабудовы ліцэя (да гэтых спраў вернемся ў асобных публікацыях), а сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк паінфармаваў аб актуальнай сітуацыі беларусаў на Беласточчыне. З трывогай гаварыў ён пра распад беларускага школьніцтва і гэтую сітуацыю назваў галоўным грэхам беларускіх арганізацый. БГКТ зараз намагаецца, каб Кураторыя арганізавала сустрэчу настаўнікаў з беларускіх асяроддзяў з прадстаўнікамі Міністэрства народнай адукацыі, прысвечаную ратаванню беларускага школьніцтва.

Пытанне беларускага школьніцтва закрануў у сваім выступленні Васіль Дамброўскі. На яго думку, усе мерапрыемствы, якія з такой ахвярнасцю арганізуюць гайнаўскія актывісты БГКТ, перастануць быць істотнымі, страцяць сэнс, калі не будзе нацыянальнага выхавання

(Працяг на стар. 5)

# Што і чаму?

Дваццаць восьмага красавіка адбылося пасяджэнне Тэрытарыяльнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Гарадку, на якім была разгледжана дымісія яе кіраўніка Лёніка Тарасэвіча. Выказана зразуменне прычынаў такога яго кроку як вынік вялікай прафесійнай занятасці, а таксама апавешчана падзяка яму за дагэтуляшнюю, надзвычай ахвярную, дзейнасць у беларускім руху. Новым паўнамоцным Рады стаў Раман Шарамэта. Пасля Гарадоцкая тэрытарыяльная рада БДА правяла перамовы з гаспадарчай дэлегацыяй з Гродна ў асобах д-ра Антона Ліёпа і Уладзіміра Наўмовіча наконт заснавання супольнай фірмы тыпу экспарт-імпарт.

Старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Сакрат Яновіч быў госцем прэзідэнта Польскай Рэчыпаспалітай Леха Валэнсы на трэццямайскім прыняцці ў Каралеўскім замку. Прынагодна адбылася гутарка на тэму статуса беларускай і польскай меншасцяў у будучым трактаце паміж Польшчай і Беларуссю. Затым — мелі месца гутаркі з лідэрамі польскай сацыял-дэмакратыі Аляксандрам Кваснеўскім і Уладзімежам Цімашэвічам, а таксама з прэзэсам Хрысціянска-грамадскай уніі Ежы Мараўскім наконт магчымасцяў палітычных перамоваў з Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем.

Па інспірацыі Канцылярыі Прэзідэнта Польшчы і Міністэрства замежных справаў адбыўся ў Супраслі 10—12 мая сімпозіум „Пабрацімскія справы: Польшча і Усход", прысвечаны перш за ўсё адносінам з Беларуссю, Украінай, Літвою. Выступілі Марак Навакоўскі з Бельведэра, Яанна Стжэльчык з міністэрскага дэпартамента і інш. Ад імя Беларускага дэмакратычнага аб'яднання прынялі ўдзел д-р Яўген Мірановіч як намеснік старшыні Галоўнай рады, Віктар Стахвюк як каардынатар Краёвай управы і д-р Антон Мірановіч як адказны за замежныя сувязі. Галоўная выснова сімпозіума: дарога Польшчы ў Еўропу вядзе цераз дасягненне ёю значнасці на ўсходзе кантынента; у супрацiўным выпадку застанецца яна перыферыйнай дзяржаваю.

Па дарозе ў Варшаву на перамовы пабываў у Беластоку 13 мая міністр культуры Беларускай ССР Яўген Вайтовіч з супрацоўнікамі. Сустрэўся ён з ваяводскімі ўладамі, а таксама з дзеячамі Рады беларускіх арганізацыяў на чале з яе старшынёю Пятром Юшчуком, членам Краёвай управы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання і адным з арганізатараў Рады нацыянальных меншасцяў Польшчы. Адбылася канкрэтная гутарка пра дапамогу Беларускай Рэспублікі ў развіцці культур-

(Працяг на стар. 5)



Стары Драгічын. Мал. У. Петрука.




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА 1928.**

— 41 —

У ходзе мірнай канферэнцыі, якая праводзілася ў тым часе ў Лондане, сярод антыпольскіх беларускіх дзеячоў наступіла пэўная змена. Сведчыла яна аб пераменах у беларускім руху. Урад Ластоўскага, які знаходзіўся ў Коўне, наладзіў кантакт з пасланнікам Найвышэйшай Рады Тарэшчанкам і, паразумеўшыся з ім, запрапанаваў у Рызе польскаму паўнамоцнаму міністру Васілеўскаму падтрымку польскім прэтэнзіям да беларускіх тэрыторыяў узамен за польскія гарантыі (пасля прызнання ў асноўным незалежнасці Беларусі) шэрагу ўступак у адміністрацыйнай, культурнай і асветніцкай галіне. Да ідэі вырашэння беларускага пытання пры дапамозе Польшчы прыхільна ставіўся нават Чарвякоў, беларускі камуніст, які знаходзіўся ў Рызе як эксперт у складзе беларускай бальшавіцкай дэлегацыі. Чарвякоў у выпадку пазітыўнага вырашэння польска-беларускіх пагадненняў меў на мірнай канферэнцыі перайсці ў антыбальшавіцкі лагер.

Аднак з увагі на тое, што польскія дэлегаты не задаволілі беларускія пастулаты, уся канцэпцыя пайшла на марна. Польшчы засталіся вернымі толькі некаторыя дзеячы Найвышэйшай Рады, а Ластоўскі вярнуўся ў Коўна, дзе яго дзеянні пачалі пашырацца і дзе яго ўплывы значна павялічыліся.

### ЧАСТКА IV

**Развіццё беларускага руху ў тракце і пасля заключэння рыжскага міру. Беларуская справа ў цэнтральнай Літве.**

### РАЗДЗЕЛ XXI

**Пераносіны ў Вільню цэнтра беларускага руху. Кантакты з Коўняй. Беларуска-літоўскі дагавор ад 11.XI.1920 г. Усебеларускі з'езд у Вільні ў студзені 1921 г.**

У перыяд апаноўвання беларускіх тэрыторыяў польскімі войскамі спачатку наймацнейшай сярод беларусаў была прапольская арыентацыя. Польскае войска стварала пэўныя магчымасці для беларускіх аспірацыяў, засноўваючы Беларускую вайсковую камісію, першыя беларускія вайсковыя фармацыі, школы і г.д.

З цягам часу, аднак, як ужо было сказана, адносіны змяніліся ў некарысць палякаў. Быў заключаны рыжскі трактат, які раздзяліў Беларусь паміж Польшчай і Савецкай Расіяй.

У гэтым часе беларускія палітыкі мелі шырокія палітычныя аспірацыі. Імкнуліся яны стварыць вялікую незалежную дзяржаву, якая аб'ядноўвала б усе этнаграфічныя часткі беларускіх земляў. Таму не здзіўляе тое, што не здавальнялі іх ні ўступкі бальшавікоў, якія яны праявілі ў адносінах да беларускай мовы і культурна-асветніцкіх спраў, ані нават абвяшчэнне незалежнасці ў шчыльнай сувязі з Савецкай Расіяй. Польшча, звязаная рыжскім трактатам, не магла браць пад увагу беларускія нацыянальныя аспірацыі ў такіх размерах, якія адпавядалі б беларусам. З увагі на неразуменне важнасці гэтага пытання сеймавай большасцю, а таксама ўрадам, Польшча не магла даць беларусам нават такіх магчымасцей, якія дала беларускаму руху Савецкая Расія, тым болей, што пачала яна прымяняць у беларускай палітыцы дэмагагічныя заклікі, ведаючы, што Польшча не ўстане іх рэалізаваць.

У выніку прынятых рыжскім трактатам абавязанняў, польскі ўрад не мог на сваёй тэрыторыі талераваць той беларускі элемент, які інспіраваў антыбальшавіцкія паўстанні. Гэтым тлумачыцца шэраг арыштаў і інтэрнаванняў сярод беларускіх дзеячоў. З другога боку, некаторыя рэпрэсіі мясцовых польскіх уладаў, напрыклад, устрыманне друку беларускіх часопісаў, закрыццё школы ў Гародні, выклікалі новыя расчараванні сярод беларускіх дзеячоў.

Найбольш дагэтуль прыхільна пастаўленыя да польскай дзяржаўнасці беларусы прыйшлі да вываду, што прынамсі часова не могуць разлічваць на падтрымку з польскага боку.

*(Працяг будзе)*

# „ТУТЭЙШЫЯ" - ТУТ

Семдзесят гадоў таму назад Янка Купала напісаў трагікамедыю „Тутэйшыя", у якой па-майстэрску прадставіў бяду нашага народа — нацыянальны нігілізм і востра асуджае прыстасаванства да розных улад многіх „тутэйшых". На працягу многіх гадоў твор гэты быў непрыдатны ў пабудове сацыялізму і камунізму. Але цяпер, у час нацыянальнага адраджэння ў БССР, зноў вярнуўся на сцэну. У апошні перыяд многія беларускія тэатры ўзяліся ставіць прызабытых „Тутэйшых". Адным з іх з'яўляецца Гродзенскі тэатр лялек, які і прывёз гэты спектакль у пастаноўцы Мікалая Андрэева. На Беласточчыну тэатр запрасіла Галоўнае праўленне БГКТ. Своеасаблівыя вобразы стварылі маладыя артысты з Гародні. „Тутэйшыя" ў іх лялькі, якімі акцёры-аніматары і акцёры-вядучыя перакідаюцца, быццам „вялікія свету" — беларусамі. Артыстаў на сцэне было ўсяго чацвёра: Тамара Лабар, Віктар Шалкевіч, Юры Мінко ды Іван Цімохін. Усе яны выдатна множыліся, ствараючы на сцэне багатую панараму персанажаў і падзей. Не часта здараецца пабачыць ды паслухаць такое майстэрства акцёраў, якія ўвасабляюцца амаль адначасова ў некалькі сцэнічных постацяў. Вельмі цікавымі былі трагічна-смяшлівыя сцэны, тэмп падзей — гарачы, такім чынам атрымалася іскрыстае відовішча, якое прадстаўляе актуальныя цяпер справы для нашага асяроддзя.

На вялікі жаль, у нас цяпер халодныя адносіны да тэатральнага мастацтва. Спектакля гродзенцаў мала хто чакаў на Беласточчыне. 20 красавіка г.г. „Тутэйшыя" мелі быць пастаўлены ў Гайнаўскім доме культуры, аб чым было ўжо вядома больш двух тыдняў да гэтага. Аднак, ахвотных паглядзець не знайшлося (зрэшты, не першы ўжо раз у Гайнаўцы на беларускі спектакль людзі не ідуць чамусьці, ды нават з ліцэя, які завецца беларускім). У такім разе тэатр лялек завітаў неспадзявана суботнім вечарам у вясковы клуб у Арэшкаве. Вядома, што пры такіх крызісных варунках усё не выйшла так, як трэба. Клуб на пастаноўку поўнага спектакля быў замалы. Адбылася своеасаблівая сустрэча вяскоўцаў з цікавай лялечнай пастаноўкай „Тутэйшых", якая разбавіла гледачоў.

На другі дзень у нядзелю трагічна-смяшлівыя сцэны поўнасцю былі паказаныя ў Рыбалах. Тут ужо атрымалася лепш: большая зала, больш гледачоў і лепш падрыхтаваная сустрэча. Гледачы ў Рыбалах сцвердзілі, што такога цікавага мастацкага выступлення тут яшчэ не было. Таму стараліся, як маглі, саграваць гасцей бурнымі воплескамі, а пасля смачнай вячэрай. З прыкрасцю ў пазнейшай беларускай перадачы пачулі ад аднаго гродзенскага акцёра, што ў

# ЭЛІЗА АЖЭШКА Ў СЁННЯШНІМ ГРОДНЕ

Гродна — горад, у якім ад 1869 да 1910 года жыла Эліза Ажэшка. Любімым месцам яе працы і адпачынку былі наднёманскія вёскі — Панямонь, Лунна, Міневічы, Багатырэвічы, Свіслач. У Гродне пастаўлены ёй помнік, адкрыта пастаянная экспазіцыя, прысвечаная яе памяці, даглядаецца яе магіла, яе імем названа вуліца... Гродна рыхтавалася ўрачыста правесці святкаванне 150 гадоў ад дня нараджэння сваёй славутай жыхаркі.

У арганізацыю свята ўключыліся Гродзенскае аддзяленне Савецкага фонду культуры, аддзел культуры абласной і гарадской радаў, кафедра польскай філалогіі Гродзенскага універсітэта, Саюз пісьменнікаў, Таварыства аховы помнікаў, польскае таварыства, Гродзенская абласная бібліятэка імя Я. Ф. Карскага.

24 мая студэнты і працаўнікі універсітэта пад кіраўніцтвам загадчыка кафедры польскай філалогіі дацэнта Святланы Мусіенка арганізавалі літаратурную сустрэчу, прысвечаную жыццю і творчасці пісьменніцы. Адной з дакладчыц была прафесар Галіна Бурштыновіч з Кракава. На запрашэнне Саюза пісьменнікаў прыбыла група літаратараў з Мінска, з Польшчы быў запрошаны Аляксандр Амільяновіч.

Абласная бібліятэка выдала спецвыпуск газеты „Хвала і слава“ — методыка-бібліяграфічныя матэрыялы да літаратурнага свята Э. Ажэшкі, апрацаваны Людмілай Шагун. Гэта бібліятэка працягвае выпуск метадычных рэкамендацый з серыі „Шануем нашых землякоў“, якія былі ўжо прысвечаны Ф. Скарыне, Ф. Багушэвічу, Я. Карскаму. Бібліятэка да слаўнага юбілею прапанавала правесці Ажэшкаўскія чытанні, афармленне кніжных выстаў, правядзенне гутарак, святаў, літаратурных вечароў, завочных экскурсій па славутых мясцінах жыццёвага і творчага шляху пісьменніцы, кніжны кірмаш „З павагай да кожнай нацыі“, агляд літаратуры „Люд Наднёманскага краю ў творах Э. Ажэшка“, цыкл гутарак „Сябры Э. Ажэшка“, „Творы Э. Ажэшка ў кіно“, пасяджэнне літаратурна-музычнай гасцёўні „Хвала і слава Элізе Ажэшка“, агляд выданняў „Пазнаёміцца ўпершыню — рэдкая кніга і прыжыццёвыя выданні“, паэтычны вянок гродзенцаў „Хвала і слава“.

Святкуе вуліца Ажэшкі, на якой знаходзіцца яе Дом-музей, а пры ім сціплы помнік з надпісам „Elizie Orzeszkowej“. Сёння памянялі на ім дошку на новую, з чорнага граніту. Захавалася студня ў былым маёнтку Ажэшкаў пад Скідзелем — Таварыства аховы помнікаў стварыла пры дапамозе архітэктара мемарыяльны знак...

Эліза Ажэшка пакінула свой след на Гродзеншчыне, так, як і гэтая зямля свой адбітак у яе творах. У „Баладзе пра Элізу Ажэшка“ А. Цыхун так бачыць яе:

*У засені дрэў — домік Ажэшкі*
*Сваёй белізною прыцягвае зрок.*
*Людзей з наваколля вялі сюды сцежкі —*
*У ім Цётка была і з Кушлян Бурачок.*
*Жыла ў ім за світальнаю птушкай,*
*Зязюля адкоўвала вёсны гадоў.*
*А Нёман, як бацька, туліў к сабе, гушкаў,*
*Пад шум ціхіх хваляў, пад звон жаўрукоў.*
*Жыццё прысвяціла пакрыўджаным лёсам*
*І простаму люду любоў аддала.*
*Тут шлях свой спыніла ў світанні бялёсым;*
*Адсюль на спачынак свой вечны пайшла...*

**Міра Лукша**

---

рыбалаўскім клубе было холадна. Справа ў тым, што вясковы клуб не можа прафесійным артыстам замяніць тэатральны будынак.

Затое ў панядзелак 22 красавіка госці выступілі на сцэне Беластоцкага тэатра лялек (ужо вядомай ім) і поўнасцю прадэманстравалі сваё майстэрства. Шкада толькі, што не назбіралася нават сотні чалавек публікі. Чаму? Мала было рэкламы, часта ў такіх выпадках кажуць. Быць можа, але ці напэўна прычына ў рэкламе? У беларускіх перадачах па радыё некалькі разоў інфармавалася аб гэтым спектаклі, а плакаты былі ў асяроддзі беластоцкіх студэнтаў. Значыць, дажыліся мы да таго, што не ведаем нават, што такое „Тутэйшыя“. Гэта ж мы, даражэнькія беластаччане, не звыклі ў тэатр хадзіць. Можа таму ў нашым жыцці шмат бывае трагічна-смяшлівых сцэн.

Нашую рэпутацыю паправіў Бельск-Падляшскі. У Бельскім доме культуры тэатр лялек з Гародні 23 красавіка паказаў двойчы „Тутэйшых“. Днём спектакль паглядзелі ўсе вучні і настаўнікі з ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча, а вечарам многія іншыя бяльчане. Пахвала належыцца працаўніцы ГП БГКТ у Бельску Анне Бжазоўскай, якая патрапіла сабраць на другі спектакль дзве сотні гледачоў. Значыць, калі захочацца — можна зрабіць усё паспяхова.

На заканчэнне ціснуцца ўласныя думкі пасля пабачаных „Тутэйшых“. Чаму нам, тутэйшым, так не хочацца стаць народам, не жадаем быць гаспадарамі на сваёй зямлі? Вечна спадзяемся на кагосьці. А чаго спадземся? Як жа многа ў нас Зносакаў развялося. Тым, хто не ведае драматычнага твора Янкі Купалы, паведамляю, што Мікіта Зносак — дзеючая асоба ў „Тутэйшых“, якая ўвесь час старалася прыстасавацца да новых палітычна-эканамічных сітуацый. Так нідзе не прыстасаваўся і знасіўся. А нам патрэбныя Здольнікі, якія ведаюць, кім быць і што рабіць, нятледзячы на тое, з якога боку вецер дзьме. Дакуль мы будзем „тутэйшымі“?

**В. Хрысцінін**

---

**Піражкі з макам**

# ГОРА АД БЯСПАМЯЦТВА

У кожнага народа свае героі і плакальшчыкі. У нас віртуозам усхліпу з'яўляецца Віктар Швед. А вяршыняй гэтага дзеяння, несумненна, трэба лічыць горкае рыданне „О, Беласточчына-Айчына!“ (у сёлетнім „Беларускім календары“).

Тут адзін жах і сканчэнне свету. Народны Плакальшчык, пахілены над спруцянелым целам уласнага Народа, праклінае наша жудаснае стагоддзе і, заплыўшымі ад слёз вачамі, крыўдліва лыпае на нашых уладароў-прыгнятальнікаў, якіх мы няспынна мянялі (дзіўны фенамен: не пан мяняе раба, а раб пана). Перад кім мы тады добраахвотна гнулі спіны? Аказваецца, пачалі мы нявольніцкую працэдуру пад свіст нагаек яго сіяцельства варшаўскага губернатара. „Былі мы ў прывіслінскім краі“, — адкрывае жахлівую гісторыю наш праваднік па айчыннай зямельцы. А чаго ж ты, сынок, сюды запёр? Уцякаў ад настаўнікаў сваіх?

Далей па штампе. Як кайзер, дык супастат (хай яму гікнецца), як бальшавікі, дык нечаканыя „вызваліцелі“. Чаму нечаканыя? Ці ж не ты, золатка, славіў гістарычны сігнал „Аўроры“?

З Другой Рэчыпаспалітай абыйшоўся плакун далікатна (ні бэ, ні мэ), з яе заменніцай, савецкай вобласцю (чаму ў адзіночным ліку?), таксама. Затое ўсыпаў Гітлеру. Ну і добра, бандыт з бандытаў. Але чым цябе, казанскі сірата, пакрыўдзіў маніфест ПКВН? Зямелькай? Прымусіў скончыць тры факультэты? Выгнаў у людзі?

Віктар Мікітавіч, нешта дрэннае здарылася з тваёй памяццю. З пэнэраўскай акупацыі махнуў ты ў Чацвертую Рэчыпаспалітую (а што з Трэцяй? дыялектычны скачок?) і раптам чуеш, „што ты тут толькі госць нібыта“. Чаму „нібыта“? І адкуль здзіўленне? Ці ты марыў аб Чацвертай Найяснай? Ці ў падняволены час сігаў праз плот, спаў на пенапласце, клаўся пад танкі Ярузельскага? А мо і ад цябе, як ад заразнага Барскага, шарахаліся на другі бок сталічных вуліц сябры-аднапалчане?

Гора ад розуму! — сказаў паэт. Гора і ад бяспамяцтва, — дабаўляю я,

**Сідар Макацёр.**

P.S Нядаўна Зялёнае Сонейка кінула кліч: „Выцірайце, хлопчыкі, слёзы, бярыцеся за дубовыя палкі!“ Ой, не ўсе, не ўсе. Калі патрэбны героі, дык і аплакваць іх павінен нехта. Абы з натуральным надрывам.

**С. М.**

---

## Пленум у Гайнаўцы

**(Працяг са стар. 1)**

моладзі. Усе беларускія арганізацыі павінны дабіцца ў Кураторыі ўвядзення ў праграмы выхавання ў прадшколлях і школах элементаў беларускага фальклору і культуры. Сяргей Харкевіч заўважыў, што адміністрацыйны загад не вырашыць справы выхавання ў нацыянальным духу. Да гэтага трэба людзей, якія маюць душу і не баяцца карыстацца існуючымі магчымасцямі.

Іншая справа, якая надта падкрэслівалася ў дыскусіі, гэта грызня ў верхніх эшалонах беларускіх дзеячоў. Успамянуты ўжо Сяргей Харкевіч заявіў, што татальную крытыку БГКТ гайнаўскія актывісты ўспрымаюць з крыўдай. „Прывязіце гэтых крыкуноў, — заклікаў, — у Гайнаўку, хай пабачаць нашу дзейнасць, а можа тады апамятаюцца і памяняюць свае адносіны да Таварыства“. Янка Хіліманюк, які ўдзельнічае ў працы Рады беларускіх арганізацый, заўважыў, што зараз наглядаецца спаборніцтва паміж імі за тое, хто з іх мацнейшы. З гарыччу аб канфліктах, якія раз'ядноўваюць наша асяроддзе і выліваюцца на старонкі „Нівы“, гаварыў Васіль Сакоўскі.

— У чым у чым, але ў сварцы то мы майстры, — сканстатаваў Мікалай Бушко. Гайнаўскія дзеячы БГКТ з непакоем глядзяць на паводзіны беластоцкіх правадыроў і жадаюць ім як найхутчэй апамятацца і паяднацца для супольнага дабра.

**В. Луба**

## Што і чаму?

**(Працяг са стар. 4)**

най інфраструктуры нашага Беластоцкага краю.

У сувязі з намеранай ліквідацыяй ваяводстваў ды заменай іх у дванаццаць вялікіх рэгіёнаў Польшчы, упаўнаважаныя Рады Міністраў д-р Лешак Мажэўскі і Юзаф Бажышкоўскі сустрэліся ў Беластоку 14 мая з кіраўнічымі дзеячамі Рады беларускіх арганізацыяў і Беларускага дэмакратычнага аб'яднання для кансультацыі праекта ўтварэння рэгіёна Падляшша. У гутарцы акцэнтавалася неабходнасць захавання беларускага субрэгіёна ў рамках сістэмы самаўправы, каб гміны з беларускім насельніцтвам маглі цалкам вырашаць пра свае справы нават у замежных кантактах, найперш гаспадарчага характару. У дыскусіі прынялі ўдзел Пятро Юшчук як старшыня Рады беларускіх арганізацыяў, Сакрат Яновіч як старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, Віктар Стахвюк як каардынатар Краёвай управы, Славамір Іванюк як паўнамоцны Тэрытарыяльнай рады Аб'яднання ў Бельску, Ян Максімюк. Антон Міранович і інш.

**Сакрат Яновіч**

## Вясёлы куточак

Віктар Ендзебер'я

### УРОК ВЫХАВАННЯ

— Мікола! — кажа бацька.

— Што, тата?

— Што гэта такое? Ты толькі ў першым класе, а ўжо курыш?

— Няпраўда!

— Як гэта няпраўда? Маці на ўласныя вочы бачыла...

— Я ўжо ў другім.

## Легенды і паданні

### ЧАМУ КРУМКАЧ РАНА ВЫВОДЗІЦЬ ПТУШАНЯТ

...Мурашка і крумкач паспрачаліся аб нечым, і паколькі — якая ж у крумкача ці мурашкі маёмасць — абодва голыя, як бічы, то заклаліся на самае каштоўнае, на дзяцей. Крумкач прайграў. І цяпер вымушаны выводзіць дзяцей, пакуль мурашкі яшчэ спяць у сваіх гарадах. Сам мерзне, і дзеці мерзнуць...

## Пошта „Зоркі"

Дзякую вучням са школы ў Старым Корніне: Юрку Гаўрылюку, А. Сурэль, А. Баравік, Іры Германовіч, Івоне Янчук, Дарку Яканюку і Крысі Галашэвіч за вершы пра вясну. На жаль, не паспеем апублікаваць іх вясной — „Зорка" даволі доўга друкуецца. Працу Андрэя Харытанюка і Дарка Яканюка пра вашу вёску Стары Корнін выкарыстаем на нашых старонках. Вельмі цікавы гістарычны нарыс — прачытаеце!

Казімір Камейша

## Скорагаворкі

* ☼ *

Толькі б раптам
не сурочыць —
У траве
стракач стракоча.

* ☼ *

Сёння досвіткам Аўсей
Злавіў
Аўсянку
У аўсе.
Быў авёс расяны ўранку —
У расе уся аўсянка.

# ПРЫГОДЫ БЕЛАВЕЖЫКА





















Спецыяльна для „Зоркі" прыдумаў і намаляваў студэнт III курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску Гардзей Шчаглоў.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

